Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск 16 - 22 мая 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№20 (108)

№2 3 5 6 СТАРОНКІ МАЛАДЗЁЖНЫ ЎКЛАДЫШ

УСЯ 8 СТАРОНКА ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ



# Мясцовая спецыфіка

*вачыма міжрайпракурора*

*МАЛАДЗЕЧНА. Генадзь Вештарт не мае і трыццаці, але апошнія паўтара гады свайго жыцця на пасадзе міжрайпракурора. Пры яго папярэдніку з'явіліся, а пры ім сталі не рэдкасцю рэагаванні пракуратуры на няправільнае размеркаванне жылля, незаконнае прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці, нявыплату заработнай платы і г. д. Вы запярэчыце, што так і павінна быць, але ж жывем мы далёка не ў ідэальным грамадстве – ад "павінна быць" да "ёсць" дыстанцыя гіганцкая. А з некаторага часу ў лексікон маладзечанцаў пачало ўваходзіць нават паняцце "пратэст на рашэнне выканкома".*

**- Адразу, натуральна, пытанне аб стане злачыннасці, захаванні законнасці ў рэгіёне - погляд з Маладзечна.**

- Гарады і раёны ў нас розныя і па тэрыторыі, і па насельніцтве, і па ступені эканамічнага развіцця, таму цяжкавата меркаваць. Але я б сказаў, што працэнт правапарушэнняў на названым характарыстыкам ідуць справы і з пункту гледжання пракуратуры.

**- Маладзечна, мусіць, усё ж мае сваю спецыфіку?**

- Так, гэта скаргі жыхароў на няправільнае размеркаванне жылля. Тлумачэнне простае: у нас яно будуецца, у іншых жа месцах практычна - не. Лідэр па здадзеных метрах і, адпаведна, колькасці скаргаў - завод ЛМК. Хаця заззначу, што значная большасць зваротаў грамадзян пры праверках не знаходзіць свайго пацвярджэння.

**- А развіццё прадпрымальніцтва ў Маладзечне?**

- Вядома, свой адбітак накладае. Іншыя гарады рэгіёна з намі тут не параўнаць. Найбольш распаўсюджанае -

*Пачатак.* *Заканчэнне на 2-й ст.*

# Што турбуе маладзечанцаў?

**Працоўныя калектывы**

***АП "Маладзечнажалезабетон", НП "Маладзечнамэбля", камбіната хлебапрадуктаў, фабрыкі мастацкіх вырабаў***
цікавяцца, якія меры прымае выканком па развіцці жыллёвага будаўніцтва, выдзяленні на яго крэдытаў; аб парадку атрымання ўчасткаў пад будаўніцтва катэджаў. Скардзяцца на аўтапарк №4 з-за нерэгулярнага руху аўтобусаў па маршрутах №1, 3, 4, 5, Вілейская накірунку.

***АТ "Маладзечналес", гарпаліклінікі***
папракаюць гарадскі "Плодаагароднінагандаль" за якасць, асартымент, цэны на прадукцыю, што ідзе ў дзіцячыя дашкольныя ўстановы. Выказваюць незадаволенасць якасцю хлеба "Беларускі" мясцовага хлебазавода.

***філіяла фабрыкі "Прамень"***
цікавяцца, якія меры прымае выканком па скарачэнні беспрацоўя.

*Па дадзеных аддзела інфармацыі гарвыканкома.*

# Смерць у "Мерседэсе"

*АСТРАВЕЦ. У мінулы аўторак родныя, блізкія, сябры праводзілі ў апошні шлях дзвюх дзяўчат, якія сталі ахвярамі трагедыі, што адбылася ранкам 12 мая на вуліцы К. Маркса. Гаворыць начальнік ДАІ Віктар Макарэвіч:*

- Адбылася сапраўдная трагедыя. У выніку наезду на сігнальныя слупкі маста праз Лошу, што пры ўездзе ў Астравец з боку вёскі Малі, аўтамабіль "Мерседэс-Бенц 190" збіў іх і зваліўся ў раку. На месцы здарэння ад атрыманых траўмаў дзве дзяўчыны памерлі, а хлопец у крайне цяжкім стане змешчаны ў рэанімацыйнае аддзяленне астравецкай бальніцы.

Дадам, што расстаўленнем усіх кропак над "і" займаюцца следчыя, якія высвятляюць прычыны здарэння. На момант падрыхтоўкі гэтага матэрыялу стан здароўя хлопца быў, як і раней, цяжкі, але з'явіліся некаторыя зрухі ў лепшы бок. Надзея на тое, што ён будзе жыць, ёсць.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Навіны

# Пашпарт для двухколавага каня

*МАЛАДЗЕЧНА. Поўным ходам ідзе ў Мінскай вобласці рэгістрацыя ровараў і мапедаў. Каля 200 веласіпедыстаў атрымалі нумар на свайго двухколавага каня і пасведчанне на права ім кіраваць. Паслуга каштуе 30 тысяч. Да таго ж выдаецца металічны нумарны знак.*

Рэгістрацыя праводзіцца, як нам паведамілі, для скарачэння траўматызму на дарогах. А таксама для паскарэння пошуку крадзеных веласіпедаў— у пасведчанне запісваецца нумар рамы. Прычым, на вул. Касманаўтаў, 6, дзе праходзіць рэгістрацыя, можна не прыязджаць, а прыходзіць пехатою.

*Аддзел інфармацыі.*

# Іграй і выйгравай

*СМАРГОНЬ. На наступным тыдні ў горадзе пройдзе V міжнародны конкурс камерных дзіцячых ансамбляў імя Агінскага. У ім возьмуць удзел 250 талентаў з музычных школ, вучылішчаў, ліцэяў краіны. Магчымы прыезд дэлегацый з-за мяжы.*

Непасрэдна горад будзе прадстаўлены ансамблем скрыпачоў пад кіраўніцтвам Святланы Коваль. У журы нашчадак Агінскага піяніст з Вялікабрытаніі Іва Залускі, прафесар Катавіцкай акадэміі музыкі Анджэй Яніцкі. Акрамя ўдзелу ў конкурсе юныя музыканты наведаюць дом-музей Багушэвіча ў Кушлянах, маёнтак Агінскага ў Залессі. Пераможцаў узнагародзяць і грашовымі прэміямі— да 400 долараў ЗША ў пераводзе на беларускія рублі.

*Аддзел інфармацыі.*

# Хочаце задаць Кісялю пытанне— едзьце ў Лебедзева

*МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. Сёння ў м. Лебедзева пройдзе сустрэча кіраўніцтва Дзяржтэлерадыёкампаніі РБ з грамадскасцю раёна.*

У сустрэчы, на якой будуць работнікі культуры, адукацыі, праваахоўных органаў, кіраўнікі выканаўчай улады, прэса, могуць прыняць удзел усе жадаючыя. Калі ў вас ёсць пытанні, напрыклад, да старшыні Дзяржтэлерадыёкампаніі Рыгора Кісяля, не спазніцеся. Імпрэза адбудзецца ў Доме культуры а 16-й гадзіне.

*Мікола ГАЙДУК.*

# Лепш там, дзе нас няма

*АСТРАВЕЦ. Нядаўна ў райвыканкоме вырашана, што беспрацоўныя, якія жывуць у сельскай мясцовасці, павінны з мая па чэрвень адпрацаваць на грамадскіх работах сем дзён, а тыя, хто ў Астраўцы,— усяго два.*

Падобная розніца, як заззначыла дырэктар цэнтра занятасці Людміла Бандарык, тлумачыцца тым, што цяпер знайсці работу ў любым з калгасаў нашмат лягчэй, чым на гарадскім заводзе ці прадпрыемстве.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Наехалі?

*МАЛАДЗЕЧНА. Смаргонскі аўтааматар з сям'ёй прыехаў на кірмаш па абновы.*

Свае чырвоныя "Жыгулі" першай мадэлі прыпаркаваў на стаянцы ля "Электрамодуля". Праз 5 хвілін яны загарэліся. Як сцвярджаюць сведкі здарэння, полымя ўзнікла імгненна і машыну пасунула на 5 метраў. Гаспадар лічыць, што яго "капейку" спалілі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Адным абзацам

**Н**а гэты год прадпрыемствам Маладзечна, якія занятыя вытворчасцю прадукцыі, гарвыканком давёў заданне па стварэнні 321 дадатковага рабочага месца. За першы квартал з 29 прадпрыемстваў толькі 6 стварылі 99 дадатковых рабочых месцаў.

**Н**а КПП "Катлоўка" пагранічнікі выявілі цэлы фургон цукерак, якія прадпрымальнік літовец без належных дакументаў спрабаваў пераправіць да сябе на радзіму. Круглую суму ў бюджэт за амаль 1000 скрынак салодкага яму ўсё ж прыйшлося заплаціць.

**З** маладзечанскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі скралі падшыўку "РГ". Нават прыемна, хаця папулярнасць бывае і розная. Але выкрадальніку бясплатную падпіску на трэці квартал гарантуем.

# Футбольны сюрпрыз

*БЕРАЗІНСКАЕ. Падрыхтоўка да чарговага турніру па мініфутболе, сярод арганізатараў якога і "РГ", выйшла на фінішную прамую.*

Вызначаны восем каманд, што возьмуць у ім удзел. Калі не адбудзецца нейкіх зрываў ці нечаканасцяў, праз месяц на поле выйдуць "Атлант" (сталічны завод халадзільнікаў), "Валожынка", "Забудова" (Чысць), каманды Беразінскага (1-ы трубны завод "Рамас"), Вілейкі, Маладзечна— завода ЛМК, "Ронда", "Колас" (хлебазавод).

Удзельнікі згуляюць у дзвюх падгрупах па кругавой сістэме, што дазволіць выключыць элемент выпадковасці. Судзіць гульні на турнір запрошаны суддзя нацыянальнай катэгорыі Георгій Гоман і суддзя І катэгорыі Віктар Дзмітрачкоў.

Як звычайна, у Беразінскім будзе арганізавана шырокая праграма футбольнага фестывалю. Тэстудыя зноў правядзе здымкі турніру, для чаго запрашаюцца сталічныя спартыўныя аглядальнікі. Акрамя ўсяго, рыхтуецца матч-сюрпрыз. Які? Прыязджайце— убачыце. Турнір пройдзе 14-15 чэрвеня.

*Язэп СЕМЯНОВІЧ.*



# Не рабіце памылак

***Чаму на дарожным указальніку ля Радашковічаў напісана "Цагляны завод" а не "Цагельня" ці хаця б "Цагельны завод"? Чаму на шыльдах кіёскаў напісана "Спадар— Іваноў" а не "Гаспадар— Іваноў". Адказ просты: неадукаванасць.***

Калі ў вас узнікла неабходнасць атрымаць кансультацыю па моўных пытаннях, то вы можаце звярнуцца ў кансультацыйны пункт маладзечанскай рэгіянальнай арганізацыі Таварыства беларускай мовы. Па тэлефонах "Рэгіянальнай газеты" (53841, 69667) вам дапамогуць звязацца са спецыялістамі, або дадуць кваліфікаваную параду непасрэдна ў рэдакцыі.

*Аддзел інфармацыі.*

Гасцёўня "РГ"

# Архіў гатовы вам дапамагчы

**Адрас занальнага архіва ў Маладзечне- вул. Лібава-Роменская, 69 вядомы многім жыхарам не толькі нашага рэгіёна, але і замежжа. Архіў пастаянна дапамагае людзям ў самых розных жыццёвых абставінах. Наш госць- дырэктар занальнага дзяржархіва Расціслаў ГЕРАСІМОВІЧ.**

***—У апошні час у архівістаў шмат дадалося работы і ў сувязі з прыняццем у 1993 годзе новага пенсійнага заканадаўства, і з ільготамі, прадастаўленымі тым, хто быў насільна ўгнаны ў Германію, і па іншых прычынах. Як архіў спраўляецца з гэтай работай?***

—Работы пабольшала. Толькі за апошнія пяць гадоў выканана каля сямі тысяч запытаў і заяў сацыяльна-праваога характару. За кожнай даведкай - канкрэтная дапамога канкрэтнаму чалавеку. Напрыклад, Валянціна Наруць звярнулася ў камісію па аднаўленні правоў рэпрэсіраваных за даведкай аб аднаўленні маёмасных правоў. Яе бацька Нічыпар Сцяпанавіч Драгун, які жыў з сям'ёй на хутары Балотнікі Чурлёнскага сельсавета (цяпер гэта тэрыторыя Вілейскага раёна) у 1952 годзе быў незаконна рэпрэсіраваны, маёмасць канфіскавалі. Таксама была асуджана яго жонка Анісся Паўлаўна. Сям'я выселена ў Казахстан. Валянціна Нічыпараўна Наруць пасля стольскіх гадоў змагла з нашай дапамогай атрымаць неабходныя даведкі.

Кожная заява, якая паступае ў архіў па пошце або прынесеная самім заяўнікам, не застаецца без увагі і дакладна выконваецца ў тэрміны, якія ўстаноўлены заканадаўствам. У чым заключаецца наша дапамога? Калі ёсць дакументы, мы пацвярджаем звесткі, што запытваюцца. Пры адсутнасці дакументаў мы даем рэкамендацыі - куды звяртацца.

***—Якія звесткі можна ў вас атрымаць, якія— не?***

—За пацвярджэннем працоўнага стажу у архіў трэба звяртацца толькі тады, калі адпаведных дакументаў няма на прадпрыемстве ці ў арганізацыі-месцы вашай работы або ў яго правапераемніка.

Дакументы аб рабоце у калгасах і саўгасах у архіве адсутнічаюць, за выключэннем звестак на спецыялістаў калгасаў, якіх прымалі на работу і звальнялі згодна з пратаколамі агульных сходаў калгаснікаў і пасяджэнняў праўлення калгаса.

У архіве не захоўваюцца дакументы ЗАГСаў - пасведчанні аб нараджэнні, смерці, рэгістрацыі шлюбаў, разводаў.

Архіў пацвярджае і выдае дакументы аб знаходжанні ў дзіцячых дамах Маладзечанскай вобласці, угоне ў Германію з тэрыторыі раёнаў, якія мы абслугоўваем,- Валожынскага, Вілейскага, Мядзельскага і Маладзечанскага. Дарэчы будзе згадаць нядаўні зварот да нас Сцяпана Ігнатавіча Маскалевіча, якому мы пацвердзілі ўгон у Германію з вёскі Дварэц былога Ільянскага раёна. Таксама пацвярджаем і выдаем дакументы аб пражыванні на тэрыторыях абслугоўваемых у 1944-1970 гадах (у тым ліку ліквідаваных) Івянецкага, Ільянскага, Крывіцкага, Свірскага і Радашковіцкага раёнаў з 1944 года да ліквідацыі. Так, для атрымання грамадзянства Беларусі атрымала нядаўна такую даведку Тарэза Баляславаўна Унучак, якая цяпер вярнулася з Казахстана, а ў 1948-1958 гадах жыла ў вёсцы Седлішча Валожынскага раёна.

Даем даведкі аб годзе нараджэння і іншых звестках па пагаспадарчых кнігах сельскіх Саветаў пералічаных раёнаў, па прыгаворах і рашэннях судоў абслугоўваемых раёнаў па 1975 год уключна, натарыяльных дагаворы Маладзечанскай, Вілейскай і Валожынскай натарыяльных кантор за 1944-60-я гады, па дакументах гаррайвыканкомаў - рашэнні аб выдзяленні ўчасткаў пад будаўніцтва розных аб'ектаў, аб уступленні ў жыллёвыя і іншыя кааператывы і таварыствы, аб атрыманні ордэраў на жыллё і іншыя.

***—Расціслаў Фёдаравіч, вы гаварылі аб зваротах грамадзян, а ці звяртаюцца да вас па дапамогу арганізацыі, установы?***

—Мы выконваем запыты органаў суда, пракуратуры, КДБ, камісій па рэабілітацыі ахвяраў палітычных рэпрэсій, консульскія запыты Міністэрства замежных спраў на асоб, што выехалі за мяжу.

***—Ці ёсць у вас запыты па генеалагічных праблемах, напрыклад, калі я хачу высветліць свой радавод?***

—Звяртайцеся, і калі мы здолеем дапамагчы, дапаможам.

***—За вашу дапамогу трэба плаціць?***

—Даведкі па стажы працы-- бясплатныя, за астатнія плату бярэм. Калі ў вас з'явіцца да нас пытанні, можаце патэлефанаваць 77733. Для чытачоў са Смаргоншчыны, Астравеччыны і Ашмяншчыны скажу, што занальны архіў, падобны нашаму, які абслугоўвае іх тэрыторыю, знаходзіцца ў Лідзе.

*Пытанні задаваў Мікола ГАЙДУК.*

Быць беларусамі

# Заваюем сусвет

*МАЛАДЗЕЧНА. У памяшканні Мінскага абласнога драмтэатра прайшла сустрэча са старшынёй Саюза тэатральных дзеячаў, галоўным рэдактарам часопіса "Мастацтва" драматургам Аляксеем Дударавым і галоўным рэдактарам "ЛіМа" і часопіса "Крыніца" паэтам Уладзімірам Някляевым.*

У маладзёжнай аўдыторыі размова вялася вакол творчасці, кахання, палітыкі. Ірына БАНДАРЫК.

Жадаю газеце
рэгіянальнай стаць
сусветнай,
а яе чытачам быць
быць і быць
беларусамі!
У. Някляеў

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск



## Навіны ад суседа!



# Мясцовая спецыфіка

*вачыма міжрайпракурора*

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й ст.*

парушэнні пры ажыццяўленні прадпрымальніцкай дзейнасці, вымантачванне крэдытаў (калі ў банкі даюцца наперад несапраўдныя звесткі, а грошы ідуць на іншыя, чым дэкларавана, мэты).

**- Балючая для нас, журналістаў, тэма. Нідзе не напісана, што нам павінны адмаўляць у прадастаўленні інфармацыі. Па рэгіёне праблемаў практычна няма, нават па тэлефоне маем добрыя кантакты з рознымі людзьмі. Добрыя стасункі і ў Маладзечанскім раёне, а вось з гарадам пастаянныя цяжкасці. Не акцэнтую вашу ўвагу на незаконнасці падобных дзеянняў, проста ўсё мае свае прычыны.**

- Натуральна, ніхто не мае права адмаўляць журналістам у прадастаўленні інфармацыі. Але тут мае ўплыў нестабільнае палітычнае становішча ў краіне. Людзі няўпэўненыя ў заўтрашнім дні - адны не маюць грошай, іншыя баяцца застацца без работы. А прэса, згадзіцеся, можа сказіць інфармацыю, даць тэндэнцыйны каментарый.

**- Але інфармацыя - гэта наш хлеб. Калі заводу не даваць сыравіну, ён нічога не зможа выпускаць. За скажэнне яе мусіць быць судовая адказнасць.**

- Складанасць яшчэ ў тым, што грамадства вельмі неадраднае - па ўзроўні развіцця, палітычных прыхільнасцях. "Маньяка" ў Маладзечне прыдумалі па зводках ГРАУС, паведамленнях прэсы. Не ўлічваць рэаліі нельга. Можа, варта даваць інфармацыю з разлікам не на самых адукаваных людзей? Захаду ў гэтых адносінах прасцей. Нават калі гаварыць пра злачыннасць увогуле, то асноўныя яе прычыны ляжаць на дзяржаве: зразумела, "там" жывуць лепей, але злачынцаў маюць, бадай, не меней; проста віды праваправушэнняў іншыя.

**- З вамі цяжка не пагадзіцца, хаця каб даваць нават такую інфармацыю (накшталт "fool proof"), неабходна і яе мець; а яшчэ існуюць паняцці ўзроўню газеты, кола яе чытачоў. То была наша "скарга", цяпер, калі ласка, больш падрабязна пра іншыя.**

- Падрабязна не атрымаецца, іх зашмат. Зазначу, што паўтара дзесяткі нашых работнікаў прыхопліваюць час пасля работы, выхадныя, каб разабрацца з усімі. Працуем, на жаль, без сучаснай аргтэхнікі. І кожная скарга праходзіць праз мае рукі. Адсюль і пазіцыя пракуратуры: мы адкрытыя для прыёму грамадзянаў. Па меры магчымасці дапамажам, нешта параім. Але просьба: прадумвайце прэтэнзіі да канца, не грунтуйце іх на эмоцыях, бо шмат скаргаў адхіляецца. Пракансультуйцеся з адвакатам - не ва ўсіх выпадках пракуратура дапаможа.

*Запісаў Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

Чытач - газета

## Адклалі пакупкі дзеля дзяцей

Дарагая рэдакцыя, для мяне стала нечаканасцю ваша інфармацыя аб падарожжы вучняў беларускай гімназіі ў Санкт-Пецярбург, дзе я быў арганізатарам і гідам. Хачу выказаць удзячнасць бацькам, якія адклалі веснавыя пакупкі і далі магчымасць сваім дзецям паглядзець на прыгажосць вялікага горада.

*З павагай харэограф бальнага танца Маладзечанскай беларускай гімназіі Дзмітрый ХАЎРОНІН.*

## І сёння ў страі

У мінулым нумары прачытала артыкул "Кветкі для ветэрана" аб Сяргею Нікандравічу Андрэеве. У Радашковічах жыве Міхаіл Іванавіч Касяк. Ён ваяваў, у 1944 годзе ўступіў у падпольную камсамольскую арганізацыю імя Суворава. У мірны час працаваў дырэктарам школы, старшынёй калгаса. Цяпер Міхаіл Іванавіч загадчык музея Вялікай Айчыннай вайны ў мясцовай школе-інтэрнаце. Наладзіў перапіску з ветэранамі, сем'ямі загінуўшых. Таксама, як і герой артыкула, шмат часу аддае размовам з падлеткамі на ваенна-патрыятычную тэму.

*Валянціна МІКУЛЬСКАЯ, Радашковічы.*

Маладзёжная РЭГІЯНАЛЬНАЯ газета №2





# Да нас заляцела пчала

**СМАРГОНЬ.** *Аднойчы сабраліся ў Доме творчасці юных некалькі хлапчукоў, дзяўчынак і вырашылі пачаць знаёміцца з азамі журналістыкі. Так узнік "Прэс-цэнтр" і друкаваны на машынцы часопіс "Улей".*



Юнкоры ўпершыню пісалі апавяданні, афармлялі рубрыкі, размалёўвалі вокладку. А чаму назвалі "Улей" — самі дакладна не ведаем. Хаця пазней зразумелі, што назва як найлепш адлюстроўвае нашу творчасць: мы маладая, таленавітыя і нас шмат. Эмблемай часопіса стала маленькая забаўная пчолка. Акрамя творчасці, мы сябруем, разам робім карысныя і добрыя справы. І ад гэтага атрымліваем асалоду.

*Саіда ВАФІНА, кіраўнік "Прэс-цэнтра".*

### Творчаму падыходу — банзай!

Дзень нараджэння часопіса стаў падзеяй для нашых дзяцей. У верасні 1995 года менавіта для майго сына скончылася бесшабашнае дзяцінства. Узнікла мэта, і наша сям'я гэта адчула.

Калі сын вучыцца маляваць, то гэта дзеля таго, каб аформіць часопіс. Калі штосьці чытае— каб напісаць артыкул. Калі бацькі занятыя хатнімі справамі, нашы дзеці нам не дакучаюць— займаюцца сваім. Невядома, ці будзе іх далейшы лёс звязаны з журналістыкай, але работа ў "Прэс-цэнтры" навучыць творча падыходзіць да любой справы.

Таццяна РУСАКЕВІЧ.

# Канікулы ўвесь год!

***Вазьміце газеты з гэтым матэрыялам і падыдзіце да бацькоў. Патлумачце ім, што на вучобу часу проста не застаецца. Нават каб вы надта прагнулі спасцігнуць таямніцы фізікі і літаратуры, гісторыі і геаметрыі.***

Давайце прааналізуем, як мы расходуем свой час (бярэм пад увагу, што ў годзе 366 дзён).

Кожны дзень на сон, з улікам падрыхтоўкі да яго, пад'ёму, ідзе 9,5 гадзін, гэта значыць каля 2/5 усяго часу, што складае каля 146 дзён.

Застаецца 220 дзён.

Штодзённа на снеданне, абед і вячэру ідзе прыкладана 1 1/4 гадзіны, г. зн. 5/96 частак сутак, што за год складае не менш за 20 дзён.

Застаецца 200 дзён.

У сярэднім не менш за 1 гадзіну штодзень ідзе на чытанне цікавых кніг, прагляд фільмаў і спектакляў; за год атрымаем каля 15 дзён.

Застаецца 185 дзён.

На дарогу ў школу і адпачынак адпусцім 90 хвілін, г. зн. 1/16, што складзе не менш за 20 дзён.

Застаецца 165 дзён.

У годзе не менш як 52 выхадныя. 52 дні.

Застаецца 113 дзён.

Асеннія, зімовыя і веснавыя канікулы цягнуцца не менш за 21 дзень.

Застаецца 92 дні.

Летнія канікулы цягнуцца не менш як 84 дні.

Застаецца 8 дзён.

Ды штогадова 8 святочных дзён.

На вучобу застаецца 0 дзён.




### Усё было так...

*...здарылася, што не сабака лепшы сябар чалавека, а кенгуру. І можа не вельмі хутка, праз мільёны гадоў, калі будзе землятрус, паводка або канец свету, ці яшчэ штосьці-небудзь, кенгуру выратуюць чалавека. І, можа, пасля гэтага менавіта яны будуць пачаткам новага жыцця на зямлі.*

*Яўгенія ЯЛІНА. Вілейка.*



*Вы прачыталі толькі заканчэнне фантастычнай гісторыі. Ёсць такая прапанова - давайце разам прыдумаем яе пачатак. Дасылайце вашы варыянты і лепшыя з іх мы надрукуем разам з фота аўтара.*

## У капеечку!

# Школьны баль як пагроза для бацькоў

**МАЛАДЗЕЧНА.** ***Набліжаецца заканчэнне вучэбнага года. Экзамены. Выпускны баль. Развітанне са школай— сум і адначасова радасць. Прычым якая не вельмі танна каштуе. Акрамя святочнага стала, кветак для настаўнікаў (толькі гэта бацькам стане ў капеечку) па традыцыі трэба займець выпускны касцюм, або шыкоўную бальную сукенку. Таму і ідзе моладзь на розныя хітрыкі, каб быць непаўтаральнай, першымі хлопцамі ці дзяўчынкамі на баляванні.***

Каб дазнацца, што колькі каштуе, я адразу прайшлася на рэчавым рынку. Адкажу адразу тым, хто хоча па-сапраўдным выглядаць шыкоўна і цікава. "Рыначны стыль" ставіць пад пагрозу ваша жаданне. Вопратка можа паўтарацца на вашай жа сяброўцы.

Жаночая сукенка каштуе ад 600 тысяч да 2, а то і 3 мільёнаў. Жаночыя туфлі танней за 500 тысяч не купіш. Мужчынскі касцюм можна ўзяць за цану ад 800 тысяч да 3 мільёнаў. Туфлі таксама каштуюць ад 800 тысяч і болей.

У магазінах прадукцыя не зусім падыходзіць моладзі. Напрыклад, туфлі пачынаюцца з 41 памеру, карацей— лыжы. А адзенне мае адбітак савецкага стылю (без розуму ды фантазіі).

Праўда, так і каштуюць ад 91 тысячы. Ёсць пінжакі пад англійскі стыль за паўтара мільёна. Там жа, у магазінах, мужчынскія кашулі каштуюць ад 90000 да 210000, жаночыя сукенкі ад 75000 да 2 мільёнаў.

Калі касцюм не купляць, якго можна пашыць. Але з улікам цэнаў на тканіну (да 250 тысяч за метр), памяркуем.

Так што глядзіце, юнакі і дзяўчаты, збірайце грошы на адзіны ў жыцці выпускны школьны баль.



*Таццяна ЖОГЛА, вучаніца САШМ.*

## Адгаданка

# Калі хочаш стаць акцёрам — усміхайся!

*"Добры дзень, дарагая рэдакцыя. "РГ" я выпісваю нядаўна, але яна адразу мне спадабалася. Жыву ў Мядзеле, скончыла тэхнікум у Ашмянах. Ну і, безумоўна, толькі з вашай газеты можна даведацца аб навінах з тых мясцоў, дзе жывуць мае сяброўкі. У першым маладзёжным укладышы вы праводзілі конкурс— адгадайце вядомыя твары. Дык вось, там змешчаны выявы Моны Лізы (Джаконды), спевакоў Агуціна і Праснякова-малодшага. Выбачайце за фотакартку— іншую не знайшла. Да пабачэння. Буду вельмі чакаць чарговы нумар "маладзёжкі".*

З павагай Марыя МЯЛЕШКА



Марыя Мялешка



1 ТУР



Яўгенія Яліна

Дзякуй, Марыя і Яўгенія, за шчырыя лісты і правільныя адказы. Зараз тур другі— акцёры. Ёсць спіс прозвішчаў: У. Меншыкаў, Дж. Керы, М. Маўс, Д. дэ Віта, Ж. Дэпардзье, М. Калкін, Р. Рэйган, Дж. Дэпп, М. Жванецкі, І. Вугольнікаў, А. Шварцнегер, Аль Пачына, К. Костнер, Чарапашка Ніндзя, Дз. Го. Трое з гэтага спісу - на фота ўнізе. Адгадайце, хто? Дасылайце свае адказы і фота. Умовы конкурсу наступныя: за 1 адгадку— адзін бал, адразу за ўсе тры— 5 балаў (у Марыі і Яўгеніі, такім чынам, па 5 балаў ужо ёсць). Можна і патэлефанаваць— 69667, назваць сваё прозвішча і пералічыць па парадку ўсіх трох. Але толькі 1 раз — 19 мая з 15 да 17 гадзін. Пра прызы — у наступны раз. Ці вы думалі ў нас іх няма?

*Дзядзька ГО.*

2-гі тур. Акцёры.



1.



2.



3.

## Навінкі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Моладзь, якой за 16, зараджаецца энергіяй на дыскатэках у кінатэатры "Радзіма". Цяпер такая магчымасць з'явілася і ў нас— вучняў сярэдніх класаў.

Дыскатэка ў кінатэатры праводзіцца з 16 да 19 гадзін. Ад першага наведвання былі ў захапленні. Тры гадзіны бесперапынна гучала музыка, каляровае асвятленне, вясёлы дыск-жакей — як у дарослых.

*Вольга ТРАЦЭЎСКАЯ, Кацярына ВЯТКІНА, 7 клас, беларуская гімназія.*

**МАЛАДЗЕЧНА**

У школе мастацтваў прайшоў конкурс-прагляд мастацкай самадзейнасці сярод школ Вілейскага, Валожынскага, Мядзельскага раёнаў, Вілейкі. Маладзечанскі раён прадстаўлялі Гарадзілаўская і Хажоўская сярэдняя школы. А горад— наша школа. Пераможцы вылучаліся на рэспубліканскі конкурс "Усе мы родам з дзяцінства".

Я звярнуўся да намесніка дырэктара САШМ *Станіславы Шунь*:

— Падабаліся валожнцы. Хаця, на маю думку, толькі САШМ паказала ўсе напрамкі творчасці і выступіла, як і заўсёды, на прафесійным узроўні.

*Сяргей АЛЕЙНІКАЎ, вучань САШМ.*

## Суббота, 24 мая

**БТ**

**8.00, 15.00, 21.00** Новости. **8.15** Здоровье. **8.45** Все про все. **9.10** Я рисую. **9.25** Уроки Н.Новожиловой. **9.55** Регион. **10.25** Судьба моя и надежда. **11.55** Зеркало. **11.15** Музобойма. **11.30** 4-е измерение. **12.00** Родовод. **12.30** Многоголосие. **13.00** Телеспорт. **13.45** Ф.Достоевский. "Покорная". **15.20** Все мы родом из детства. **16.15** Телевизионный Дом кино. **16.40** Риск-версия. **17.10** Белорусский дом. **17.40** Зорная ростань. **18.15** Галерея. **18.50** Х/ф "Любовь, смертельная игра..." **20.15** История любви. **20.40** Колыбельная. **21.45** Теленавигатор. **22.05** Х/ф "Два придурка с поросенком" (Фр). **23.35 Видимо-невидимо.**

**1 ОРТ**

**7.00** Х/ф "Легенда о княгине Ольге". 1-я с. **8.10** М/ф. **8.40** Лотто-Миллион. **8.45** Домашняя библиотека. **9.00, 14.00** Новости. **9.10** Слово пастыря. **9.30** Утренняя почта. **10.05** Каламбур. **10.40** Смак. **11.00** Возвращение Третьяковки. **11.25** Х/ф "Майская ночь, или Утопленница". **12.20** Кирилл и Мефодий. Тайная миссия к славянам. **12.45** Ток-шоу "Поехали!". **13.25** Очевидное — невероятное. **14.20** М/ф. **15.10** В мире животных. **15.50** Футбол. **17.55** Х/ф "Здравствуйте, я ваша тетя!". **20.00** Время. **20.55** Песня-97. **21.45** Что? Где? Когда? **23.00** Х/ф "Макс и Иеремия".

**РТР**

**7.00** Утренний экспресс. **7.55** Товары — почтой. **8.05** Меморина. **8.30** Адреналин. **8.45** Доброе утро, страна! **9.30** В мире животных. **10.00** Вести в 11. **10.15** Хочу в артисты... **10.55** "Приключения капитана Врунгеля". М/ф. **11.05** Анонимные собеседники. **11.30** Сад культуры. **12.00** Лучшие игры **НБА**. **13.00** Вести про... **13.20** "Суббота, воскресенье, понедельник". Х/ф. **14.20** Караоке. **14.50** Двойной портрет. **15.20** Бесконечное путешествие. **15.50** Кирилл и Мефодий — святые учителя. **16.50** Телескоп. **17.30** Старая квартира. 1953 год. **19.00** Вести. **19.35** Сам себе режиссер. **20.15** Гей, славяне! **21.50** Момент истины. **22.45** Волейбол. Мировая лига. **23.45** Репортер. **24.00** Программа "**А**".

**5**

**9.05** Честь имею. **9.35** Хуторок. **10.05** М/ф **10.25** "Кондоры". Док. фильм (Фр). **11.20** Наобум. **11.55, 13.55, 15.55, 18.55** Информ ТВ. **12.10** Телетеатр Г.А.Товстоногова. **14.10** Еще одна Россия. **14.40** Театральная провинция?. **15.10** Исторические расследования. **16.10** Спорт. **16.30** Лотто-бинго. **18.35** Большой фестиваль. **19.20** Х/ф "Мания Жизели". **20.55** Светская хроника. **21.10** Блеф-клуб. **21.45** Парад парадов. **22.30** Экспресс-кино. **22.50** Х/ф "Атлантида" (Ит-Фр).

**НТВ**

**7.00** Сегодня. **9.00** М/ф. **9.30** Пойми меня. **10.00** "Дети против монстров". **10.45** <u>От "**винта**"</u>. **11.00, 15.00** Сегодня. **12.00** *Хоккей. Кубок Стэнли*. **14.30** Панорама. **16.00** Русский альбом. **16.30** М/ф **17.00** Новости Голливуда. **17.30** Дог-шоу. Я и моя собака. **18.00, 21.00** Сегодня. **18.30** Герой дня без галстука. **18.55** Х/ф "Кошмар на улице Вязов". **20.45** Куклы. **21.45** Намедни-71. **22.30** Империя страсти. **23.10** Футбольный клуб. **24.00** Плейбой-шоу.

**TV6**

**6.00, 7.00, 22.15** 6 новостей. **6.10** Музыка кино. **6.30** Клуб "12 копеек". **7.10, 23.20** Дорожный патруль. **7.25** "Рок-н-ролл для принцесс". Х/ф 1-я с. **8.40** Цептер-приз. **8.50** М/ф **9.45** Это мы не проходили. **10.15** Дикая природа Австралии. **11.20** Открытия недели. **11.55** Д/ф **12.50** Диск-канал для детей. **13.40** М/ф. **13.55** Я сама. **14.55** Профессия. **15.50** Клуб одиноких сердец. **16.20** Суперагент Шимпанзе. **17.15** Ералаш. **18.55** Скандалы. **19.25** ОСП-студия. **20.15** Фитиль. **20.30** Х/ф "Земля Санникова". **22.30** Обоз. **23.35** Диск-канал. **0.40** "Живодер" (США).

## Воскресенье, 25 мая

**БТ**

**8.00** Коктейль по воскресеньям. **9.00** Мультиклуб. **10.10** Вершина мира. **10.45** Все нормально, мама! **11.15** Туробъектив. **11.45** Арсенал. **12.15** Война в воздухе. **12.40** Сельчане. **13.10** Кольца славы. **13.50** Сущность. **14.15** Аплодисменты. **15.00** Новости. **15.20** Уникум. **15.55** Бон тон. **16.25** Оскар. **17.00** *Футбол. Кубок Беларуси*. **18.55** Портреты. **19.25** Бездельник. **20.00** Резонанс. **20.50** <u>**СТК**</u>. **21.10** Телебарометр. **21.25** Карамболь. **22.00** Х/ф "Последние дни Ше Ну", Х/ф (Авст). **23.40** Бархатный сезон.

**1 ОРТ**

**7.00** "Легенда о княгине Ольге". **8.10** М/ф. **8.55** Спортлото. **9.00, 14.00, 23.45** Новости. **9.10** Непутевые заметки. **9.20** Пока все дома. **10.10** Утренняя звезда. **11.00** Армейский магазин. **11.30** Играй, гармонь! **12.00** Сельский час. **12.25** Подводная одиссея. **13.25** Смехопанорама. **14.20** Приглашение к музыке. **14.45** Клуб путешественников. **15.35** Мультфейерверк. **16.20** Один на один. **16.45** Футбольное обозрение. **17.20** Счастливый случай. **18.15** Х/ф "Волчья кровь". **19.50** Киноафиша. **20.00** Время. **20.40** "**ТЭФИ-97**": церемония вручения профессиональной премии в области телевидения.

**РТР**

**7.00** Утренний экспресс. **8.10** "Солти". **8.35** У всех на устах. **8.50** Доброе утро, страна! **9.30** Присяга. **10.00** Вести в 11. **10.15** Русское лото. **10.55** Без пяти 12. **11.00** Книжная лавка. **11.25** М/ф. **11.35** Человек на Земле. **12.00** Поэт в России. **12.30** Наш сад. **13.00** Вести. **13.20** "Суббота, воскресенье, понедельник". Х/ф (Ит). **14.10** Романсиада-97. **14.25** Волшебный мир Диснея. **15.20** Репортаж ни о чем. **15.35** Довгань-шоу. **16.05** Весь мир. **16.45** Вечер с А.Гурновым. **17.05** Один против всех. **17.25** L-клуб. **17.55** РТР в гостях у телезрителей. **18.10** Аншлаг. **19.00** Зеркало. **20.00** К-2: "Поцелуй в диафрагму". **21.00** ГОРОДОК. **21.35** У Ксюши. **22.05** Футбол без границ. **22.35** Гей, славяне! **0.05** Рек-тайм. **0.20** Гороскоп.

**5**

**8.30** Целительное слово. **9.05** Папа, мама и я — спортивная семья. **9.35** Овертайм. **10.05** М/ф **10.25** "Долина хайраков". Док.сериал (Фр). **11.20** Роман с героем. **11.55, 13.55, 15.55** Информ ТВ. **12.10** "Когда песня не кончается". Х/ф. **13.40** Петербург. **14.10** Еще одна Россия. **15.10** Премьера в Мариинском. **16.10** Спорт. **16.40** Детское ТВ. **18.35** Сокровища Петербурга. **18.55** Обратный отсчет. **19.20** "Белые ночи". Х/ф. **20.55** У всех на виду. **21.10** Ноу смокинг. **21.55** Международное обозрение. **22.35** "Зеленая карета". Х/ф.

**НТВ**

**7.00** Сегодня. **9.00** Устами младенца. **9.30** Пойми меня. **10.00** "Дети против монстров". **10.45** <u>От "**винта**"</u>. **11.00, 15.00** Сегодня. **12.00** Книжный магазин. **12.30** Маски-шоу. **13.00** "Каролина в Нью-Йорке". **13.30** Русский альбом. **14.00** Время "Ч". **14.30** Своя игра. **16.00** "Прозрение". Х/ф (Гр-Фр). **17.30** Русские гвозди. **18.00** Сегодня. **18.30** Х/ф "Бабник-2". **20.00** Итоги. **21.10** Х/ф "Окончательный анализ" (США). **23.25** 3-й глаз. **0.05** Плейбой-шоу.

**TV6**

**6.00, 7.00, 16.50** Шесть новостей. **6.10** Музыка кино. **6.30** Скандалы. **7.10** Дорожный патруль. **7.25** М/ф. **8.10** "Рок-н-ролл для принцесс". 2-я с. **9.55** Пальчики оближешь. **10.30** Назло рекордам. **10.55** Дикая природа Австралии. **11.55** Канон. **12.25** М/ф. **12.35** Музыка и пресса. **13.30** Сделай шаг. **14.25** Спорт недели. **14.55** М/ф. **15.40** Москва А. Поклада. **15.55** "Суперагент Шимпанзе". **19.05** Фитиль. **19.25** Х/ф Горожане. **21.10** Шоу Бенни Хилла. **21.45** Х/ф "Война Мерфи" (Вел). **23.45** PARTY ZONE. **1.10** Диск-канал.

## Поўныя кішэні музыкі




*Разам з музыкай пачынаецца падарожжа. Няспешная і чароўная вандроўка па бясконцых зялёных узгорках Усё далей і далей растаеш у казцы і ўжо не здзіўляешся, калі сустрэнеш на скрыжаванні рыцара, убачыш у небе дракона, возьмеш у спадарожнікі эльфа, знойдзеш у пыле на дарозе талер. З якім можна завітаць у бліжэйшую карчму, каб папіць элю ці іншага смачнага напою, паслухаць "Камэлот", спець песню.*

*<u>- Як узнік "Камэлот" і які шлях прывёў яго ў "Краіну Талераў"?</u>*

**<u>Ігар Войніч:</u>**

- Я вучыўся ў аспірантуры, пісаў дысертацыю па старажытнай літаратуры, спяваў свае ўласныя песні. І ў канцы 1991 года жонка аднаго з нашых бардаў Змітра Сідаровіча прапанавала мне сустрэцца з яе мужыком і паспяваць з ім разам, бо мы займаліся адным і тым жа - беларускай старажытнасцю. Ён у адраджэнцкіх мэтах, я ў навуковых. Першыя сумесныя песні былі пра каханне і рыцараў, як нам падалося - адвечныя і разам з тым новыя тэмы. Бо наша Беларусь гэта не толькі сялянская краіна, дзе ёсць "лапці, Алесі ды Янкі". Мы сцвярджалі, што ў нас былі гарады, замкі і рыцарства з непаўторнай культурай. Аказалася, што разам са Змітром грае Саша Кішкін. З ім мы раней вучыліся ў музычнай школе, нават сядзелі за адной партай. У нас усіх былі напрацоўкі сваіх песень. Так нечакана ўзнік гурт. Назваліся мы "Камэлотам", бо лічылі, што гэты сярэднявечны замак, які існаваў у рыцарскіх баладах і раманах, належыць і нашай культурнай старажытнай спадчыне. Чацвертым удзельнікам гурта стаў Валік Агееў, які граў на бубнах. Змітро - цікавы чалавек, самачынна займаўся фальклорам. Ён знайшоў, што наш фальклор у асноўным жаночы. Спявалі песні ў асноўным жанчыны. А мы пачалі развіваць мужчынскі пачатак. Песня "А дзе ж тыя ваяры?" - у арыгінале жаночая, але Змітро крыху змяніў словы і атрымалася на народны матыў ужо мужчынская песня. У хуткім часе было развучана пяцьшэсць песень. У тым ліку і "Краіна Талераў", якая хутка стала папулярнай. У 1992 годзе пачаліся выступленні. Першыя ў Беларускім гуманітарным ліцэі, потым нас сталі запрашаць у іншыя месцы, пайшлі сталыя канцэрты, з'явіліся запісы на радыё, на тэлебачанні. Праз гурт у той час прайшло шмат людзей, у тым ліку і адзін маладзечанец - скрыпач Ігар Вяжэвіч. Яго жонка часам грала ў нас на віяланчэлі. Мы з ім і зараз падтрымліваем сувязь. На клавішных - клавесіне, чэлесце дапамагаў Сяргей Кузьменка і аднойчы на студыі Макс Івашын з "Нейра Дзюбеля". Выступалі ў Мінску, Магілёве, Гродне, Брэсце. Бывалі поўныя залы. Двойчы з'ездзілі ў Польшчу на "Басовішча". Але высветлілася, што Змітро, якому даручылі вакальныя партыі, "не выцягвае". Мы перасталі выступаць. Пачаліся пошукі вакаліста, перабралі шмат людзей. Аднойчы да нас завітаў універсітэцкі сябра Толік Басай *(на фота з пушкай у цэнтры)*, які на той час працаваў у "Кроку", меў даволі добры пастаўлены голас. Ён паспрабаваў — атрымалася з першага разу! Мы аднавілі работу. У 1994 годзе зарабілі грошай для запісу першага альбома. Купілі студыйны магнітафон. Учатырох заселі за працу - я на гітары, басу і клавішах, Саша Кішкін на духавых і этнічна-экзатычных інструментах - кокле, дудзе, Змітро Сідаровіч на гітары і клавішах, Толік Басай - асноўны вакал. На працягу двух месяцаў над кожнай ноткай - вось і з'явіўся альбом **<u>"У Краіне Талераў"</u>**. Мы імкнуліся стварыць яго еўрапейскім, "ірландскім", а атрымалася нешта нашае - славянскае, аднак не зусім традыцыйнае - шчымліва-баладнае. Большасць падабраных у альбом песень не сумныя - мінорныя, а светлыя - мажорныя. Ёсць, праўда, і выключэнне - тыпова баладная песня "Саколе". На альбоме ўсё рабілі самі, нават вокладку Кішкін намаляваў. На касетах альбом афіцыйна з'явіўся толькі ў пачатку 1996 года.

*<u>- Мяне зачараваў незвычайна "мяккі" вакал. Здаецца, што словы - яшчэ адзін музычны інструмент. Як гэта атрымліваецца ў "Камэлота"?</u>*

- Я лічу, што ў 1933 годзе нашу мову "кастрыравалі", яна згубіла сваю мілагучнасць. Па ідэалагічных матывах было вынішчана шмат слоў. Напрыклад "ліцвіны", "бонда". Апошняе заменена на безгустоўнае зэкаўскае "паёк"... А гэта ж былі прыгожыя словы! Відавочна, што лепш сказаць не "член таварыства...", а "сябра..." Ці ўжываць не слова "кап'ё", а "дзіда" - наша спрадвеку. У мяне нават ёсць тэорыя наконт напісання сучаснай беларускай песні. Паменш у тэкстах гукаў "ч" і "р", цвёрдых у беларускай мове, замест мяккіх у расейскай. Трэба ўлічваць моўную сітуацыю нашай краіны. Ёсць сінонімы: "шчыт" - "тарча". Выбірайце. Вось і песня беларуская больш мілагучна ліецца. Гэта адно. Другое - Толік вельмі ўпарта працаваў над маўленнем. У жыцці мы ўсе без праблемаў размаўляем пабеларуску. Можа заўважаць памылкі адзін аднаго, папраўляць...

*<u>- Так і пішаце песні — разам?</u>*

- Таму і круглы стол у рыцараў з Камэлота - бо ўсе роўныя. Напрыклад, калі ствараліся "Тры жалуды", Саша Кішкін прынёс ідэю ў выглядзе мелодыі на флейце, развіў тэму Змітро, я завяршыў. Змітро за якісь тыдзень напісаў словы. Падобнае было і з песняй "Не ківай галавой!". Пачалося з запеўкі Кішкіна: "Перад табой - герой стогадовай вайны", потым з'явілася астатняя мелодыя, тэкст. Здаецца, нават Валік Агееў браў удзел у яе стварэнні. Часцяком ёсць ідэя ці музычная фраза, а потым знаходзіцца астатняе - словы, мелодыя. Бывае, што ідэю і канчатковы выхад песні раздзяляе час у некалькі месяцаў.



*<u>- Якія справы цяпер у "Камэлота", калі чакаць новы альбом?</u>*

- Нельга сказаць, што ў нас справы вельмі добрыя. Запісаўшы "Краіну Талераў", мы 9 месяцаў не маглі яго "звесці". Мы ўсё рабілі за свае грошы. Потым новая праблема: дзе выдаць? У выпуску касет адмовілі "Вігма", "Брестком". Выстаўлялі нявыгадныя ўмовы. Праблемы ў адсутнасці паўнапраўнага закона аб аўтарскім праве. Дамовіліся з "Тон-рэкардс". І за першыя 2 месяцы была прададзена ледзь не палова тыража, і без нейкіх фундатараў — яшчэ адное старое беларускае слова, якое заменена на замежнае - "спонсар". Цяпер цяжка - няма дзе рэпеціраваць, патрэбныя грошы. Год назад думалі адразу запісаць і выпусціць другі альбом. Песні ёсць. Але страшэнна не хапае часу, а час - грошы. Усё ўпіраецца ў "матэрыяльнае". Быў момант, што літаральна апускаліся рукі, у гурце паміж Толікам і Змітро ўзнік канфлікт. Але ўсё нападзілася. Мажліва, недзе ў жніўні з'явіцца новы альбом. Летам будуць канцэрты. Магчыма, і ў вашым горадзе. Прыходзьце!

*Гутарыў Алег ГУЛЕЦКІ.*



І. Войніч. В. Агееў. А. Кішкін. З. Сідаровіч.

## ДОШКА АБ'ЯЎ

Дзве бестыі жаночага полу з чароўнымі тварыкамі хочуць пазнаёміцца з сімпатычнымі вясёлымі хлопцамі. Магчыма перапіска з хлопцамі з іншых гарадоў. Пажадана фота, якое вернем. Маладзечна, В. Гасцінец, 155-21 (Танюша), Крынічная, 5-32 (Танюсік).

***

Мяне завуць Максім, мне 12 год, сярэдняга росту, шатэн. Хачу знайсці сяброўку. Маладзечна, вул. Міру, 42-20.

***

Прывітанне, дяўчынкі! Я прыгожы бландзін, люблю музыку, спорт і жадаю пазнаёміцца з дзяўчынкай, якая падзяляе мае інтарэсы. Пішыце— адкажу ўсім. Маладзечна, вул. Міру, 30-33, Яўген.

GARAЖ

Прывітанне ўсім! Я цікаўлюся камп'ютэрамі, фантастыкай. Хачу знайсці сяброў па перапісцы. Думаю, што знайду з усімі агульную мову. Адкажу ўсім, хто напіша. Маладзечна, вул. Будаўнікоў, 10-26, Дзмітрый.

***

Дзве Тані шукаюць сяброў па перапісцы. Займаемся музыкай і мастацтвам, нам падабаюцца вясёлыя хлопцы і дзяўчаты. Чакаем пісем ці званкоў. 222310, Маладзечна, вул. Міру, 20, кв. 65 і 53. Тэл. 52777, 68164.

***

Сімпатычная дзяўчына жадае знайсці сяброў. Люблю хадзіць на дыскатэкі і слухаць музыку. Любімы гурт— "Nirvana". Чакаю лістоў, адкажу ўсім. Маладзечна, вул. Чайкоўскага, 6-1.

## Навінкі

**МАЛАДЗЕЧНА**

У нашай школе прайшоў конкурс чытальнікаў. У ім прымалі ўдзел вучні 5-11 класаў. Падабраць для выступлення верш ці прозу было нялёгка. Таму ўдзельнікі напярэдадні проста не вылазілі з бібліятэк. Самымі папулярнымі аказаліся творы Пушкіна, Лермантава. Паўгадзіны журы раілася: каго вызначыць пераможцам. Не ведаю, хто перамог (не дачакалася вынікаў). Я проста ўдзячная ўдзельнікам, якія нагадалі любімыя творы.

*Карына ЛОБАНЬ, 7 клас, СШ №8.*



Ірына БАНДАРЫК. Дзяжурная па рубрыцы "АБ'ЯВЫ".

# Перакладчык з адным класам адукацыі



**МАЛАДЗЕЧНА**. *Тут пабывала арганізацыя "Ten sing" з Нарвегіі. Такую ж назву мела і група музыкантаў, што была ў складзе арганізацыі. Госці ў школах і на пляцоўцы ў парку адпачынку спявалі, танчылі, паказвалі інсцэніроўкі. У Маладзечна нарвежцы прыехалі пасля Валожына і Ліды. А да Беларусі наведалі шмат краін— Індыю, Бельгію, Германію...*

"Ten sing" у беларускай гімназіі праводзіла семінары — развучвала з вучнямі свае песні. Самае галоўнае, людзі розных нацыянальнасцей добра разумелі адзін аднаго. Хаця размаўлялі мімікай і жэстамі. А перакладчыкам мог стаць кожны, хто не менш за год вывучаў англійскую мову.

Беларусь гасцям спадабалася. Асабліва нашы краявіды, таксама вучні і студэнты — "незалежныя і вясёлыя".

"Ten sing"— хрысціянская арганізацыя. Яна хоча, каб і ў нас былі такія музычныя групы, адкрываліся таленты. Праўда, усё гэта праз рэлігію — ухваленне Бога.

Замежныя госці — простыя, сціплыя. Нашай "маладзёжцы" пажадалі вялікага тыражу, а юным карэспандэнтам шчасця. Усім чытачам здароўя і любві да бога.



*Таццяна ЖОГЛА, Сяргей АЛЕЙНІКАЎ, САШМ.*

## Навінкі

СМАРОГОНЬ

# Жывадзёры на паляванні

Нядаўна наша раёнка на першай паласе змясціла інфармацыю аб тым, што выканком афіцыйна дазволіў адлоліванне бадзяжных катоў і сабак. Прызначаны за гэта грашовыя прэміі. Работай заняліся і многія вучні. Для іх гэта адзіная магчымасць зарабіць. Такім чынам паўстае адна прблема.

Другая ў нас саміх. Каб не было жывадзёраў, трэба, каб не з'яўляліся бадзяжныя каты і сабакі. А іх не будзе тады, калі кожны з нас перш, чым заводзіць жывёл, добра аб гэтым падумае.

*Ірына НІКІЦЕНКА.*

*У падрыхтоўцы нумара ўзяла ўдзел грамадская арганізацыя "САНАТ". Таленавітыя дзеці.*

# GARAЖ

## Галаваломка




Аўтамабілі неабходна паставіць у гаражы так, каб сума лікаў на бартах па кожнай вертыкалі, гарызанталі і дыяганалі была аднолькавая. Дзевяты аўтамабіль-- на дошцы аб'яў.

*Таццяна КАМАРОВА, СШ №8, Маладзечна.*

| | | |
|---|---|---|
| 58 | | |
| | | |
| 30 | 65 | 16 |



## Адпачынак

# Мы выхоўваем патрыётаў

**МАЛАДЗЕЧНА**. *10 гадоў, як існуе ваенна-патрыятычны клуб "Дэсантнік". Узначальвае яго Анатоль Казлоў:*

— Мы вырашаем дзве асноўныя задачы. Папершае, рыхтуем хлопцаў да службы ў арміі. Па-другое, значная ўвага надаецца маральнаму выхаванню. Каб дзеці цяпер і ў далейшым не праходзілі ля чужой бяды. А калі спатрэбіцца, сталі на абарону Радзімы. Нашы напрамкі ў рабоце і раскрываюць назву клуба.

*— Карыстаецеся нейкімі праграмамі?*

— З 6-7 гадоў вучым дзяцей майстэрству каратэ. Заняткі праходзяць у СШ №8. Веды замацоўваем у спаборніцтвах. Час ад часу заданні ўскладняюцца і за 5 гадоў праходзім поўны курс падрыхтоўкі. Часцяком ходзім у паходы.

*— На спаборніцтвах перамагаеце?*

— Абавязкова. Адразу вырашаем — усе першыя месцы нашы. Крыху жартую, бо ў спаборніцтвах заўсёды ёсць і пераможцы, і прайграўшыя. Ганарымся дыпломам РБ І ступені сярод арганізацый і клубаў па каратэ. Маем шмат узнагарод рознай вартасці. Раней выдавалі сваю газету "Дэсантнік", у якой і адлюстроўвалі ўсе свае перамогі.



*Наталля КАСТКО. СШ №12.*

## Увага: каханне!

*У гэтай рубрыцы паспрабую падказаць шляхі выйсця са складаных сітуацый. Шчыра дзякую за лісты, што даслалі менавіта мне. Адным патэлефаную, іншым напішу асабіста. Некаторыя выпадкі разгледзім на старонках "РГ". Сёння ў гэтым мне дапамагаюць адзінаццацікласнікі маладзечанскай СШ №8.*

З павагай, псіхолаг-кансультант Алена БАРЫСІК.



**Вытрымкі з ліста.**

*"Дзень добры. "мРГ". Мне 16 год. вучуся ў 10 класе на "5". У кастрычніку аднакласнік Андрэй прызнаўся ў каханні. А я. як апошняя ідыётка. сказала. што мне ён не падабаецца. але мы пачалі сябраваць. Аднойчы я псіханула і сказала. што паміж намі ўсё скончана. А праз дзень убачыла Андрэя на дыскатэцы з іншай. Яна маладзейшая на год і не вельмі разумная. Можа. яму падабаюцца такія. што перад ім будуць "слацца"? А я перастала ноччу спаць. Адкажыце. ці бывае каханне. выкліканае рэўнасцю? І што рабіць?*

Надзея, Астравец" (імя зменена- рэд.).

**Надзеі ад аднагодкаў.**

*"Магчыма, ты пакахала. Ва ўсім вінаватая толькі ты. Калі не атрымаецца вярнуць Андрэя, памятай: усё, што ні робіцца— да лепшага. С. В.".*

*"Гэта не рэўнасць, не каханне, а проста звычка. Выпусці Андрэя са сваіх ланцугоў, калі крыху яго паважаеш. Па тваім лісце я адчула, што ты слабы, эгаістычны чалавек. Аксана".*

*"Каханне не можа ўзнікнуць ад рэўнасці— яно існуе заўсёды. А рэўнасць дапаможа табе разабрацца ў сваіх пачуццях. Алег".*

*"Можа, Андрэй спецыяльна сустракаецца з іншай, каб ты змяніла свае паводзіны. Алена".*

**Псіхолаг-кансультант:**

— Паводзіны Надзеі— "сабака на сене": сам не гам і іншаму не дам. Прыемна адчуваць на працягу двух гадоў, што цябе кахаюць. З гэтым хутка звыкаешся. Андрэй не атрымліваў узаемнасці, а яна, калі згубіла крыніцу кахання, прызнання, адчула гэта. Тое, што Надзея называе словам "слацца",— элементарнае выказванне пачуццяў. Перад ёй ён таксама "слаўся", і гэта дзяўчыне падабалася. Дык чаму ж гэта не будзе падабацца яму? Ніколі не трэба гуляцца: "захачу, прыцягну— захачу, адштурхну". Час дапаможа разабрацца ў сабе, і толькі тады зможаш адказаць на пытанне: кахаю— не кахаю. Каб убачыць дно ў возеры, дзе ўскаламуцілі ваду, трэба нейкі час пачакаць.



**Вытрымкі з ліста.**

*"Маладзёжка". прывітанне. Я пакахала жанатага мужчыну. Ён майстар у нашым вучылішчы і яму 33 гады. Адчуваю. што без яго не магу жыць. Што мне рабіць?*

Таццяна, 16 год, Смаргонь."

**Таццяне ад аднагодкаў.**

*"Тваё каханне дзіцячае. А разбурацъ сям'ю— не вельмі добрая ідэя. Магчыма, у яго ў думках няма, што ты закахалася. Табе будзе 20, а яму 37— гэта ўжо стары чалавек. І яго рэўнасць стане спадарожнікам твайго жыцця. Люда".*

*"Танюша, мне 17, і маё меркаванне лепшае за парады сяброўак. Мне падабаюцца жанчыны на гадоў 5 старэйшыя за мяне. Паразмаўляй з ім. Ну, а калі ён будзе ў адказ лаяцца— адшый па поўнай праграме. Віталь".*

**Псіхолаг-кансультант:**

— Калі ты яму патрэбная, ён першы зробіць крок насустрач. У яго словах адчуй сапраўдны матыў захаплення табою. Дзеля чаго гэта яму? Палюбоўніцай стаць лёгка, цяжка ёю быць. Бо каханне будзе побач, калі толькі яму гэта зручна. Станьце сябрамі, але не перасякай мяжу. Парадаў можа быць многа. Ва ўсякім выпадку адказнасць за свае рашэнні несці табе. Не сапсуй сваё жыццё і жыццё іншых, можа, і незнаёмых людзей.

## Наша кухванька

# Ромавая баба

Узяць з татавага бара бутэльку з надпісам "Ром" ("Rum"). Выйсці на балкон і дачакацца сытную бабульку. Выліць на яе змесціва бутэлькі. Калі бабулька прыбяжыць сварыцца, паставіць пад ногі таз з цестам. Парыць у духоўцы да поўнай цішыні. Падаваць на дэсерт, папярэдне запрасіць у госці дзеда.

Што рабіць з дзедам? Чытайце ў наступны раз.

*Папуа ГВІНЕЙСКІ.*



# ТЭСТ



*"Дзень добры!*

*Я вучуся ў 8 "В" класе СШ №8 Маладзечна. Прачытала маладзёжны ўкладыш і вырашыла напісаць. Прапаную для "маладзёжкі" тэст —*

*"Ці падабаецеся вы хлопцам?"*

1. *Уявіце твар хлопца.*
2. *Загадайце лічбу да 15.*
3. *Дадайце 30.*
4. *Памножце на 2.*
5. *Адыміце 6.*
6. *Дадайце 4.*
7. *Адыміце 50.*

*Адказы:*

*Калі атрымаеце 1. 4. 5. 6. 10. 12. 13. 14. 16. 18. 19. 20. 22. 23. 25. 27. 31. 32. 33. 34. 35. 36— падабаецеся;*

*2. 7. 8. 11. 17. 21. 26. 29. 30— не падабаецеся;*

*3. 9— вельмі падабаецеся;*

*15. 24. 28— падабаецеся. але так сабе.*

*Лічу. што тэст вам падыдзе".*

## Віртуальныя цацкі

# Горад – мой!




Я стаю ля акна і з дзесятага паверха бачу ўвесь горад. Я ведаю, што жыццё горада залежыць ад мяне. Я ведаю, што людзей возяць мае аўтобусы, сувязь паміж гарадамі ажыццяўляецца праз мае цягнікі і самалёты. Я — кароль транспарту, бо на камп'ютары я гуляю ў **Transport Tycoon Deluxe**. На дзвярах майго кабінета — шыльдачка з надпісам "Транспартны каардынатар", а наверсе будынка майго офіса — назва маёй кампаніі. Я тут шэф, я магу рабіць ўсё, што захачу. Мая кампанія зарабіла шмат грошай — $$$!

У мой гонар стаіць статуя...



*Ігар ВОЙТКА, беларуская гімназія, Маладзечна.*

# Prosze mi przyniesc do pokoju sniadanie

**МАЛАДЗЕЧНА**. *Два гады ў СШ №9 працуе гурток па вывучэнні польскай мовы. Заняткі з вучнямі 6-9 класаў праводзіць намеснік дырэктара Валянціна Прыпутневіч. Своеасабліва замацоўваць веды— у канцы навучальнага года ставяць ацэнкі па польскай мове.*

**В. Прыпутневіч**:

— Ідэя стварыць гурток узнікла даўно. Хацелася, каб дзеці былі занятыя чымсьці карысным і каб гэта спатрэбілася ў жыцці.

**Ганна Богдан**, 9 клас:

— Я была ў Польшчы. Мову вывучаю, каб падтрымліваць зносіны з тамтэйшымі аднагодкамі. Хачу больш даведацца аб гісторыі, кльтуры Польшчы.

**Аксана Нацэвіч**, 9 клас:

— Мая бабуля жзыве ў Польшчы. Хачу з ёю перапісвацца і размаўляць пры сустрэчах па-польску.

**Віталь Страшынскі**, 6 клас:

— Хачу больш даведацца аб традыцыях гэтай краіны, пазнаёміцца з яе жыхарамі.

У наступны раз змесцім беларуска-польскі размоўнік для моладзі. А цяпер у загалоўке сказана — "прашу прынесці мне ў нумар сняданак".



*Таццяна МІР. СШ №9.*

## Крыжаванка "Літаратурная" ад Мар'яны Івановай з Маладзечна



**Па гарызанталі:**

**7.** Трохскладовая стапа з націскам на апошнім складзе. **10.** Страляніна, стральба. **12.** Перанос назваў адных з'яў ці прадметаў на іншыя на аснове іх знешняга ці ўнутранага падабенства. **13.** Тэатральная п'еса лёгкага, жартаўлівага, часам фрывольнага зместу. **16.** Урачысты, узнёслы паэтычны верш, хвалебная песня ў гонар важнай падзеі ці асобы. **17.** Вестка, паведамленне. **19.** Невялікі празаічны твор, у аснову якога пакладзена адна жыццёвая сітуацыя, падзея, адзін жыццёвы эпізод, выпадак. **21.** Плацеж грошай за парушэнне законаў. **22.** Спіртны напітак. **23.** Момант найвышэйшага напружання ў развіцці дзеяння, найбольш драматычнае выпрабаванне, праз якое праходзіць герой. **25.** Верш урачыста-хвалебнага зместу (у антычнай паэзіі). **28.** Малая апавядальна-эпічная форма, блізкая да апавядання, у якой расказваецца пра незвычайны выпадак, здарэнне, эпізод з жыцця героя. **29.** Невялікі хвалебны верш, часцей за ўсё прысвечаны жанчыне. **32.** Рынак, кірмаш. **34.** Мясціна, дзе адбываюцца падзеі ў трылогіі Я. Коласа "На ростанях". **36.** Лёгкая камедыйная п'еса, асноўная дзея ў якой спалучаецца з музыкай, песнямі, куплетамі, танцамі. **38.** Эпічны твор самай вялікай формы. **39.** Цыкл твораў з трох частак. **40.** Як закрэслена слова: кот? **41.** Мера даўжыні. **42.** Частка запальніцы.

**Па вертыкалі:**

**1.** Лік. **2.** Двухскладовая стапа з націскам на апошнім складзе. **3.** З'едлівая, вострая, злосная насмешка, кпіны. **4.** Твор, у якім востра высмейваюцца пэўныя адмоўныя грамадскія з'явы. **5.** Расказ пра пэўныя падзеі, знешні свет, чалавечае шчасце. **6.** Буйны раман, які вызначаецца панарамнасцю адлюстравання жыцця, маштабнасцю. **8.** Кароткі артыкул на злабадзённую тэму, дзе высмейваюцца якія-небудзь заганы грамадскага жыцця. **9.** Вершаваны твор з алегарычным сюжэтам і мараллю. **11.** Твор эпічнай формы, які адрозніваецца ад апавядання шырэйшым ахопам рэчаіснасці, больш складаным сюжэтам. **14.** Ухіленне заганаў на негатыве ў фатаграфаванні. **15.** Драматычны твор з камічнымі і трагічнымі элементамі. **18.** Балотная расліна. **20.** Перанясенне ўласцівасцей жывых істот на з'явы прыроды, прадметы, абстрактныя паняцці. **24.** Атрутнае рэчыва. **27.** Чалавек, які ніколі не пацэльвае ў мішэнь. **30.** Разбег. **31.** Насякомае. **33.** Твор, блізкі да апавядання, заснаваны на сапраўдных фактах, адметных падзеях, якія мелі месца ў жыцці. **35.** Адна з формаў вострага, камічнага, выкрывальнага паказу адмоўных з'яў і заганаў жыцця грамадства. **37.** Дародавы адпачынак.

## Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №17

**Па гарызанталі:**

**3.** Саламаха. **7.** "Салавей". **8.** Авіетка. **11.** Лампас. **13.** Нарды. **14.** Духаў. **15.** Контратака. **17.** Край. **18.** Марш. **20.** "Зеніт". **21.** Сітро. **23.** Гродна. **24.** Платан. **25.** Анілін. **27.** Казлоў. **29.** Агент. **31.** Колба. **32.** Лань. **33.** Абат. **34.** Гардэмарын. **35.** Кусто. **37.** Саган. **38.** Эпітэт. **43.** Плінтус. **44.** Квартал. **45.** Кавардак.

**Па вертыкалі:**

**1.** Флейта. **2.** Ракада. **3.** Сава. **4.** Аніс. **5.** "Плёсы". **6.** Атрад. **9.** Леапард. **10.** Грамата. **11.** Люнет. **12.** Сеанс. **15.** Кенігсберг. **16.** Антыцыклон. **17.** Кардынал. **19.** Шпангоўт. **20.** Загана. **22.** Оптыка. **26.** Лангуст. **28.** "Зубраня". **30.** Турнэ. **31.** Карат. **36.** Осмій. **37.** Скетч. **39.** Паства. **40.** Эскуда. **41.** Штык. **42.** Танк.

### Энергетыка XXI стагоддзя

У 14 гадзін 22 мая ў актавай зале СШ N6 Маладзечна адбудзецца сустрэча з кіраўніком Цэнтра нетрадыцыйнай энергетыкі Віктарам Лацам і дырэктарам Цэнтра перспектыўных даследаванняў аўтарам тэорыі пругкага квантаванага асяроддзя Уладзімірам Лявонавым. Запрашаем на сустрэчу ўсіх жадаючых, асабліва каго цікавяць суперновыя тэорыі і распрацоўкі навукі і тэхнікі.





